*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 1(386) 6 СТУДЗЕНЯ 1999 г.**



*З Калядамі Цябе, спадарыня Беларусь! Добрай долі і Божай ласкі!*

Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята;
Снег на куццю -- грыбы на лета,
Такая матчына прымета,
А сцежкі чорны -- ягад многа;
Ну і за гэта хвала богу...
...Трасянкі загадзя натрэслі,
Сянца пахучага прынеслі:
Куцці гаршчок ужо ў калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
І вось цяпер гаршчок з куцёю,
Як цар даўнейшаю парою,
Ў пачэсны кут, на свой прастол,
Стаўляўся з гонарам на стол
На гэта сена пад багамі,
Ўладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень - персона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хоць ён фаміліі глінянай...
...І стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог--
На сене колісь быў сын-бог--
І роўным пластам рассцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць...
...На першы дзень святых калядак--
Такі ўжо быў стары парадак--
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале ў драбнюткім сене--
Здавён даўно вялося й гэта--
Уважна зернетак шукалі
І па тых зернетках гадалі,
Які зародзіць хлеб на лета.

*Якуб Колас "Новая зямля"*

## Шаноўнае спадарства!

Вітаю вас у новым годзе. Рады паведаміць вам, што нас стала яшчэ болей. На 28 снежня колькасць падпісчыкаў складала 1812 чалавек. У сувязі з гэтым мы падымаем наклад да 3500 асобнікаў.

Мы паднялі цану на газету пры продажы ў розніцу. Зараз яна складае 5 000 рублёў. Тым не менш, "Наша слова" - адна з самых танных газет на Беларусі.

Мы ажыццяўляем паступовы пераход на восем палос. Не ўсё тут проста, але мы чакаем рэзкага росту аб'ёму інфармацыі перад з'ездам ТБМ, таму восем палос будуць проста неабходнымі.

Яшчэ раз з Новым годам усіх вас! Будзьма разам.

*Станіслаў Суднік*

## Чатыры тыдні ў снежні

### Прыватны агляд беларускага друку

***Ці стане "трэці сектар" рэальнай вытворчай сілай?***
***(І.Каравайчык і А.Чобат у "НС" 09.12.98г.***
***П.Севярынец у "Пагоні" 1.12.98г.).***
***Ці прыйдзе на змену стылю "енку і заклiку" стыль "бунту і наступу"?***
***(Тэндэнцыі і ўражанні 1998-га года).***

Парадавала ў снежні "Наша слова" артыкулам лідэра Партыі Здаровага Сэнсу сп.Каравайчыка "Не гіне, а жыве і будзе жыць". Разам з іншымі, згаданымі вышэй, ён складаецца ў размову пра перспектывы беларушчыны. Прынцыпова, што ў гэтых допісах болей шчырасці, болей (сапраўды!) здаровага сэнсу.

Сп. Каравайчык піша: "Прывабіць да сябе людзей гаротай і зрабіць іх сваімі саюзнікамі вельмі складана, калі не сказаць, што зусім немагчыма.. Ці навучыліся мы самі расказваць і закладваць у галавы сваіх суайчыннікаў тое, чым сапраўды можа ганарыцца беларускі народ?" Не ўсе маюць смеласць гаварыць пра гэта публічна. Адкінуць фальшывы сорам і пыху, спыніць енк і плач, думаць пра канкрэтныя справы — так мне бачыцца лейтматыў гэтых публікацый.

Што праўда, асобныя месцы, асабліва ў сп.Севярынца, дужа нагадваюць знакамітую прымаўку "лепей быць здаровым ды багатым..." Сёння можна казаць хутчэй пра пачатак перавароту ў свядомасці, чымся пра змены ў практычнай дзейнасці. Спробы рэвізаваць сістэму адраджэнцкіх поглядаў не могуць абмінуць пытанне: хто будзе выканаўцам новых (або і старых) планаў? Натуральнае ( і доўгачаканае) змяншэнне спадзяванняў на дзяржаву лагічна павялічвае ўвагу да недзяржаўных арганізацый — так званага "трэцяна сектара".

Каб гэты сектар, умоўна кажучы, заняўся рэальнай вытворчасцю згодна са сваім прызначэннем! Але як гэта зрабіць — не ведае, здаецца, ніхто. Магчыма, справа ўся ў тым, што развіццё сягнула пакуль неглыбока. Іначай сп. Северынец мусіў бы паспрабаваць адказаць на пытанні тыпу: чаму "Выкшталцоны мовазнаўца і ўнікальны камунікатар" Вячорка (усе эпітаты Севярынца — Д.Ж.) не ўпрыгожвае сваімі допісамі "Наша слова", калі так востра не хапае людзей, якія прыгожа пішуць па-беларуску? Чаму ў дзень падпісання ў Маскве чарговай інтаграцыйнай паперы беларуская служба "Свабоды" не знайшла ніводнага кампетэнтнага суразмоўцы ў Менску (а вось расейская — знайшла)? Будзем спадзявацца, што адказы на гэтыя пытанні хутка пачнуць з'яўляцца ў беларускім друку, прачышчаючы галавы адраджэнцаў. Становішча змушае да такіх крокаў. Тады мо спраўдзяцца надзеі сп.Каравайчыка ( "Жыве і будзе жыць!"), а прывід інтэлектуальнага радыкалізму, пабачаны П.Севярынцам, набудзе матэрыяльнае цела.

Трохі пра год, што прайшоў. Шмат што засталося ў марах, але спадзяванні ўмацаваліся. Не змяніўся склад "Вострай брамы", дзе па-ранейшаму некалькі хлопцаў штотыдзень дэманструюць нам заганнасць манаполіі, быццам мала нам для гэтага афіцыйнага друку. Не сустрэлася мастацкага твора (па-беларуску), які можна было б сёння з прыемнасцю ўзгадаць. Але зазначылася ў эфіры і друку разнастайная па складзе плынь, аб'ядналая думкаю стварыць альтэрнатыву стылю "енку і заклiку", які дасюль пануе ў беларускім асяроддзі. Мацнее і шырыцца перакананне, што адраджэнне беларускага вымагае стварэння каштоўнасцяў, адэкватных сённяшняму дню і сучаснаму спажыўцу. Пакуль гэтае пачуццё не ўвасобілася ў эфектоўныя акцыі і пекныя творы, якія б прыцягнулі ўвагу сапраўды шырокіх колаў. Хочацца спадзявацца, што гэта — не за гарамі.

Безумоўнымі дасягненнямі году лічу тое, што выходзіць "Спадчына" , развіваецца "Наша слова". З'явіўся новы часопіс "Arche" — невядомы пакуль, але беларускі. Цікавыя перадачы ёсць на "Свабодзе", змястоўныя артыкулы сустракаюцца ў ЛіМе і "Звяздзе", у "НС" выходзіла цудоўная "Аповесць пра словы". Паволі, здаецца мне, набірае сілу перакананне, што якасць у барацьбе за беларушчыну не менш важная за колькасць.

У сувязі з гэтым колькі пажаданняў на наступны год.

Болей імёнаў у прыгожым пісьменстве і публіцыстыцы.

Больш перакладаў з замежных аўтараў. Болей беларускіх словаў у "Звяздзе", менеи памылак друку ў "Нашым слове". Больш беларускага слова ў "Навінах" пра эканоміку, болей расейскага слова ў "Навінах" — пра беларускую культуру і гісторыю.

Болей рэцэнзій, менеі заклікаў, болей інтэрвію, менеі заклікаў, болей самакрытыкі, менеі заклікаў. Болей прапаноў, менеі выкрыванняў, болей жартаў, менеі енкаў.

Як бачым, год скончыўся, але і год пачаўся; гэтак і нашы спадзяванні. Le voi est movt . Vive le voi!

28.12.98г. Д.Ж

## Добры дзень, шаноўнае "Наша слова"!




Я Ваша даўнішняя чытачка і сяброўка. У ранейшым "НС" у рубрыцы "Кола сям'і" мне, маці траіх дзяцей і бабулі шасцярых унукаў, было што сказаць. Выпісвала экзэмпляр газеты для школы, што знаходзіцца на нашай вуліцы. На Новы год ізноў падпішу школьную бібліятэку.

А зараз я хачу сказаць некалькі словаў з нагоды 10-ці годдзя Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Я не маю гонару быць сябрам БНФ, можа таму, што ніколі не была членам (партыі), а можа таму, што хачу быць вольнай грамадзянкай. Але вось дзіва. Калі я ў краме, ці другім грамадскім месцы размаўляю альбо адказваю на пытанні на тытульнай мове дзяржавы, то вельмі часта можна пачуць шэпт: "бэнэ-эфаўка". Некалькі па-іншаму складваецца сітуацыя ў чарзе за таннай, ці, як кажа вярхоўны жрэц, "дзешовай колбаской для бедных людзей" ліверкай, кравянкай, нейкімі вантробкамі тыпу каровінага вымя. Тут ужо, з прычыны таго, што нехта хоча узяць (зразумела--купіць) без чаргі, а нехта просіць больш за норму адпусціць, натоўп літаральна сатанее. У гэтым асяродку можна казаць толькі на трасянцы ці па-расейску і не чапаць галоўнага зодчага. Любы сказ па-беларуску выкліча лямант: — "бэнээфаўка"!. Ужо не шэпт, а скавытанне выклікаць міліцыянта. Дык вось: і шэпт, і лямант і пагроза прывялі мяне да высновы, што ўсё самае нацыянальнае, у лепшым яго, шляхетным, высакародным успрыманні, ўсё самае сумленнае, самае годнае — Гэта БНФ. БНФ "Адраджэньне" — гонар нацыі. І я пайшла на вечарыну, што ладзілі 18 кастрычніка суполка БНФ ды Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з нагоды 10-ці годдзя БНФ. Вечарына не была шматлюднай, па цукар у шмат разоў большы натоўп. Але ж, там — натоўп, а тут была нацыя. Мяне больш за ўсё ўразіла прыгажосць моладзі. Нутраное, духоўнае святло было на тварах, паводзінах, выступах. Былі цёплыя словы віншаванняў гасцей, успаміны першапраходцаў руху, добразычлівыя адносіны гаспадароў. Паэты чыталі вершы, гучала гітара, спявалі песні. Ішоў запіс у грамадзянства БНР, продаж беларускай літаратуры. Вельмі сціпла, утульна і годна прайшла вечарына, я не памылілася у сваіў характарыстыках.

*г.Гомель*
*Судзізлоўская Я.І.*

## Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова"!

Хачу падзяліцца з чытачамі нашай газеты сваімі думкамі аб беларускай мове. Адразу скажу, я шараговы чытач "Нашага слова", беларускую мову ведаю недасканала. Але мяне турбуе ўсё тое, што адбываецца з нашай цудоўнай, мілагучнай мовай, адзінай такой у свеце. Вядома, што мова па-за палітыкай. Але толькі не на Беларусі. Чаму адну беларускую мову ( тарашкевіцу) судзяць, забараняюць і нічога не робяць з "агульнапрынятай" — наркомаўкай? Гэта што праблемы мовы ці праблемы палітыкі!? Наша слова — якое яно, наша беларускае слова!? Тое, што Сталін нам пакінуў у спадчыну, ці іншае?

Наша слова — гэта "тарашкевіца". Мае апаненты мне могуць запярэчыць, што людзі ўжо прывыклі да "наркомаўкі", а "тарашкевіца" для іх чужая, незразумелая. Падман. Наша сапраўдная, беларуская мова мяккая, мілагучная. І кожны беларус сэрцам адчувае, што "тарашкевіца" і ёсць сапраўдная беларуская мова.

Усе гэтыя гады мы жывём пад расейскамоўнай акупацыяй. Рэформа 1933 года гвалтам навязала "наркомаўку" беларускаму народу. ГУЛАГ Беларусі пралягае не толькі праз "Валадарку" і Курапаты, ён прайшоў і праз нашую мову. Беларускую мову згвалцілі, а мы па сённяшні дзень лічым, "наркомаўку" сваёй. Нельга лічыць законным дэкрэт акупантаў. Нельга яму падпарадкоўвацца. Усё, што рабілася ў часы панавання СССР супраць нашай Радзімы, тым больш сусветнавядомым дыктатарам Сталіным, з'яўляецца незаконным.

"Наркомаўка" — гэта сурагат беларускай мовы. Яна знішчае, губіць нашаю мілагучную мову, Не дзіва, што многія лічаць яе (наркомаўку) грубай "дзеравенскай" мовай. Гэтага і дасягнулі русіфікатары — акупанты. Наблізіць гучанне нашае мовы да расейскай. А потым і зусім зліць, але на карысць расейскай. Гэта быў адзін з першых крокаў да знішчэння беларускай мовы. Трэба было так яе зняважыць, каб народ, носьбіт мовы абразліва адносіўся да яе. І сёння мы маем, тое, што народ размаўляе на мове акупанта. Русіфікатары дамагліся свайго. Другая справа "тарашкевіца". Яна ну ніяк не можа "зліцца" з расейскай, яна беларуская.

Таму акупанты і баяцца, "тарашкевіцы", таму і судзяць яе, і забараняюць. "Тарашкевіца" — гэта адраджэнне нашай Беларусі.

Газета "Наша слова" заклікае шанаваць і захоўваць беларускую мову. Пытанне толькі — якую? Калі мы хочам захаваць і даць росквіт нашай мове, трэба каб і "Наша слова" друкавалася на мове "Тарашкевіча", на сапраўднай беларускай мове, якая не зведала сталінскага бота.

*З павагай да вас*
*Ангеліна Масюта*
*г.Менск*

# Хрэстаматыі па гісторыі Бацькаўшчыны

Пасля атрымання незалежнасці Беларусі настаўнікі з нецярплівасцю чакалі хрэстаматыю па гісторыі Беларусі. Нядаўна выйшла некалькі кніг, якія можна аднесці да хрэстаматыйных: "Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (УІ - ХУ ст.ст.): Дапаможнік для вучняў і настаўнікаў /Склад С.К.Ганцова, В.А. Чамярыцкі, Г.В.Штыхаў. Пад рэд. Г.В.Штыхава" (Мн., "Народная асвета", 1998); Вішнеўскі А.Ф., Юхо Я.А. "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах ( Са старажытных часоў да нашых дзён)". Вучэбны дапаможнік. (Мн., Акадэмія МУС РБ. 1998); "Беларускія летапісы і хронікі: Пераклад са старажытна-рускай, старабеларускай і польскай" /Уклад. У. Арлова.(Мн.,"Беларускі кнігазбор". 1997); Платонаў Расціслаў. "Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20-30-х гадоў". (Мн.,БелНДІДАС, 1998).

Кожная з гэтых кніг спадабаецца і спатрэбіцца настаўніку гісторыі. На жаль, набыць іх яны не змогуць, бо кніга Р.Платонава выдадзена тыражом усяго 100 экземпляраў, А. Вішнеўскага, Я.Юхо — 500, а "Беларускія летапісы і хронікі" — 6 тыс. Значна большым накладам надрукаваны дапаможнік для вучняў і настаўнікаў пад рэд. Г. Штыхава — 20 тыс. Аднак і яе кожны вучань не атрымае, бо яна спатрэбіцца ў 6-10-х класах. І такой колькасці не хопіць. Да параўнання прывядзём такі факт; вучэбны дапаможнік для 7-га класа П.А.Лойкі "Гісторыя Беларусі ХУІ — ХУІІІ стст.". надрукаваны ў 1998 г. накладам 196 тыс. і ў школах лішніх кніг няма. Няма яго і ў свабодным продажы. Чаму мала выпускаецца кніг па гісторыі Беларусі, асабліва хрэстаматыйных? Думаю, што настаўнікам тлумачыць прычыны не трэба. Самі добра ведаюць. Можа варта нагадаць, што на І з'ездзе настаўнікаў Беларусі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь патрабаваў ад міністра адукацыі В.І.Стражава каб падручнікі былі ў свабодным продажы. Але іх так і няма. Праўда, некаторыя расейскія ёсць у кнігарнях, а нашых так і няма.

Кніга "Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (УІ - ХУ ст.ст.)", рэкамендаваная Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці дапаможніка для вучняў і настаўнікаў, у бліжэйшы час паступіць у школьныя бібліятэкі. Выдадзена яна ў мяккай вокладцы выдавецтвам "Народная асвета". Складаецца яна з прадмовы, трох раздзелаў і заключэння. Дакументы і літаратурныя творы (усяго 70) ахопліваюць цэлае тысячагоддзе беларускай мінуўшчыны: кніга пасля прадмовы пачынаецца ўрыўкам з трактата "Аб готах" епіскапа Іардана і заканчваецца дакументам "Прывілей гораду Менску на Магдэбургскае права (1499г.)". Апрача дакументаў і ўрыўкаў з дакументаў і летапісаў па гісторыі Беларусі ў хрэстаматыю уключаны таксама асобныя літаратурныя помнікі або ўрыўкі з іх, якія змяшчаюць інфармацыю па гісторыі эпохі Сярэднявечча: "Сага аб Эймундзе", "Слова пра паход Ігаравы", "З аповесці пра Ефрасінню Полацкую", "Пахвала вялікаму князю Вітаўту". Дакументы і ўрыўкі з дакументаў узятыя з "Аповесці аб мінулых часах", Радзівілаўскага летапісу, "Хронікі Лівоніі Генрыха Латвійскага", "Хронікі Быхаўца", "Летапісу вялікіх князёў літоўскіх", Густынскага летапісу і інш.

Тэксты дадзены на сучаснай беларускай мове ў перакладах навукоўцаў В.Чамярыцкага, У. Кароткага, А.Мельнікава, З. Саўкі, Г.Штыхава, С. Цярохіна і інш. Дапаможнік зроблены ў адпаведнасці з праграмай па гісторыі Беларусі для агульнаадукацыйных школ і ўключае матэрыялы па айчыннай гісторыі з улікам найноўшых публікацый і даследаванняў гісторыкаў. Матэрыялы размешчаны ў храналагічным парадку. Многія гістарычныя і літаратурныя помнікі маюць неабходныя тлумачэнні і каментарыі, што робіць іх зразумелымі і для настаўнікаў і для вучняў.

У прадмове да тэмы "Падзеі ў Полацкай зямлі ў ХІІ ст." (с.37). В.Чамярыцкі і Г.Штыхаў коратка растлумачваюць сутнасць пытання аб вызначэнні абгрунтаванага датавання тагачасных гістарычных падзей. Справа ў тым, што ў часы складання летапісаў выкарыстоўваліся два стылі летазлічэння: сакавіцкі — калі год пачынаўся 1 сакавіка і вераснёўскі — калі пачаткам года было 1 верасня. Быў яшчэ спосаб вылічэння візантыйскіх гадоў, якія даследчыкі назвалі "ультрасакавіцкім". Пачаткам ультрасакавіцкага года таксама было 1 сакавіка, але нумарацыя гадоў звычайна перавышала нумарацыю гадоў паводле сакавіцкага стылю на адзінку. Таму пры вырашэнні пытанняў храналогіі даследчыкам неабходна ў кожным выпадку вызначыць, паводле якой сістэмы зроблены запіс. (Гл. "Бережков Н.Г. Хронология русского летописания". М., 1963).

Складальнікі дапаможніка побач з летапіснай датай ад стварэння свету прывялі дату падзеі ад нараджэння Хрыстова, як гэта робіцца звычайна па нашай эры. Розніца ў летапісаннях складае 5508 гадоў. Адначасова складальнікі ўказалі, калі гэта патрэбна, удакладнёную дату падзеі.

Прывядзём прыклад (гл. с.50). "У год 6748 (1240, фактычна вясна 1241). Даніла тым часам прыбыў з братам да Берасця і не змаглі яны выйсці на поле, бо быў смурод ад вельмі вялікай колькасці забітых". Мяркуюць, што гэта след манголататарскага нашэсця. Кіеў быў узяты Батыем 5 снежня 1240 г., а падзея ў Берасці адбылася пасля таго: князі бачылі забітых вясной 1241г. Улічваць дакладныя даты важна пры выкладанні гісторыі і да гэтага яшчэ раз заклікаюць складальнікі хрэстаматыйнага дапаможніка.

Кніга, якая прапануецца, вучням і настаўнікам, выкліча цікавасць і ў гісторыкаў-навукоўцаў. У надрукаваных перакладзеных на беларускую мову паведамленнях летапісаў улічана навукова абгрунтаванае датаванне падзей. Іншымі словамі, даты пераведзены на хрысціянскае летазлічэнне, якое прымяняецца цяпер у Еўропе і ў большасці краін свету. Гэтаму пытанню ў гістарыяграфіі Беларусі, на жаль, не надавалася належнага значэння. Таму цяпер у навукова-папулярных публікацыях і нават у навуковых энцыклапедычных выданнях назіраецца блытаніна ў датаванні падзей, асабліва тых, якія адбываліся ў ХІІ-ХІІІ ст.ст. Напрыклад, паход кіеўскага князя Мсціслава на Полацкую землю ў адных выданнях датуецца 1128, а ў іншых 1127 годам. Навукова абгрунтаванай датай з'яўляецца 1127 год. Такіх прыкладаў можна прывесці шмат. Складальнікі "Дакументаў і матэрыялаў", выкарыстаўшы распрацоўкі украінскіх і расейскіх гісторыкаў, праверылі і ўдакладнілі амаль усе прыведзеныя даты, з іх налічваюцца дзесяткі.

Шкада, што гэта не зроблена тут у неабходным выпадку. На с. 19 цытуецца: "у год 6636 (1128) памёр полацкі князь Барыс ...". На самой справе ў перакладзе на сучасную сістэму летазлічэння князь памёр у 1129 г.

Настаўнікам, якія выкладаюць гісторыю Беларусі, варта звярнуць увагу на дакумент "З нямецкай хронікі Германа Вартберга", які раней быў ужо надрукаваны ў кнізе "Белоруссия в эпоху феодализма". Т.1. (Мн.,1959), дзе гаворыцца пра бітву паміж крыжакамі і літоўска-беларускім войскам на рацэ Стрэва (Стрэбене) у 1348 г. У некаторых публікацыях (напрыклад, у артыкуле "Забытая слава") гаворыцца, што ў гэтай бітве нямецкія рыцары "пацярпелі паражэнне". Але ў "Нямецкай хроніцы Германа Вартберга" сказана, што ў бітве "загінула больш за 10000 літоўцаў і русінаў" (с.106), а далей паведамляецца: "З хрысціян жа загінула 8 рыцараў з 42 шляхетнымі мужамі". Як бачым, пра паражэнне нямецкіх рыцараў гаварыць не выпадае. Іншая справа, што гэта фантастычныя лічбы, прыдуманыя крыжацкімі храністамі.

У каментарыі Г. Штыхава растлумачваецца, што ў паведамленні Вартберга пра выніki бітвы на Стрэве фантастычна перавялічаны страты "літоўцаў і русінаў". Нямецкія рыцары распаўсюджвалі хлуслівыя чуткі, быццам у бітве прынялі ўдзел 40 тысяч літоўцаў і русінаў і чвэрць з іх загінула. Хлуслівыя звесткі мелі мэтай прыцягнуць у шэрагі Лівонскага ордэна рыцараў з заходніх краін.

У падручніках Г. Штыхава і В.Ракуця "Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі" для 6-га класа (1996, 1998) на с.125, сказана "Страты беларуска-літоўскага войска былі вялікія, але бітва не прынесла рашаючай перамогі рыцарам. Упартая барацьба з крыжакамі працягвалася". З такім тлумачэннем варта пагадзіцца. Нарэшце варта адзначыць, што азнаямленне з летапісамі, хронікамі, заканадаўчымі актамі, граматамі, жыццямі і іншымі помнікамі дапаможа вучням узбагаціць свае веды па айчыннай гісторыі, зрабіць у школе выкладанне больш мэтанакіраваным, цікавым і плённым.

Кніга А.Ф. Вішнеўскага, Я.А.Юхо "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах (са старажытных часоў да нашых дзён)" "прызначана для выкладчыкаў і студэнтаў юрыдычных і гістарычных факультэтаў універсітэтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй дзяржавы і права беларускага народа". Зразумела, такі вучэбны дапаможнік неабходны кожнаму настаўніку гісторыі школы, гімназіі, ліцэя, каледжа і г.д. Ён складаецца з прадмовы і 6 раздзелаў, у якія ўключаны больш за 90 дакументаў. Уся гісторыя Беларусі падзелена на 6 перыядаў: "Старажытная гісторыя Беларусі", "Вялікае княства Літоўскае", "Рэч Паспалітая — канфедэратыўная дзяржава Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польшчы", "Беларусь у складзе Расійскай імперыі", "Савецкі перыяд беларускай дзяржаўнасці", "Абвяшчэнне і станаўленне сувярэннай Рэспублікі Беларусь".

На пачатку кожнага раздзела даецца кароткая гістарычная даведка аб перыядзе, да якога адносяцца дакументы і характарызуюцца некаторыя дакументы. У іншы раз тлумачэнні прыводзяцца перад асобнымі дакументамі або іх групамі. Пасля дакумента даюцца звесткі адкуль ён узяты і дзе захоўваецца.

Трэба асабліва адзначыць, што "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах" ахоплівае значны прамежак часу мінулага беларускіх зямель: з 513 г. да н.э. і па 1997 г., што складае 2510 гадоў. На пачатку першага раздзела Я.Юхо паведамляе, што першыя пісьмовыя звесткі аб старажытным насельніцтве тэрыторыі сучаснай Беларусі сустракаюцца ў "Гісторыі" Герадота. Апісваючы вайну персідскага цара Дарыя са скіфамі, што адбывалася ў 513 г. да н.э., старажытнагрэчаскі гісторык "прывёў цікавую інфармацыю аб паўночных суседзях скіфаў — будзінах (гудзінах) і неўрах, якія ў тыя часы займалі тэрыторыю басейна Прыпяці, верхняга Дняпра (Барысфена), Заходняй Дзвіны і Заходняга Буга". Далей Я.Юхо адзначае, што на Беларусі захавалася значная колькасць паселішчаў, у назвах якіх захавалася памяць аб будзінах (вудзінах, гудзінах, гудах) — гэта Гуды, Гудовічы, Гудава, Гудагай і інш. Такім чынам, першы дакументальны матэрыял вучэбнага дапаможніка — "Герадот аб неўрах і будзінах" і апошні дакумент — "Статут саюза Беларусі і Расіі", які датуецца 23 мая 1997 г.

Станоўчым у гэтым дапаможніку з'яўляецца тое, што ўпершыню гісторыя Беларусі разглядаецца не з 1919г., ні з ІХ ст., а з 513 г. да н.э. Уключэнне ў дапаможнік урыўка з кнігі Васіля Тацішчава "История Российская", дзе гаворыцца аб паходжанні славян, аб Белай Русі. В. Тацішчаў адзначаў: "Герб Белыя Руси издревле был всадник белый в красном поли, саблю имеючий пред собою" (с.14)).

У кнігу уключаны дагаворы, агульназемскія граматы, валасныя і абласныя граматы, граматы на Магдэбурскае права, маніфесты, канстытуцыі, дакументы Рады БНР, вярхоўных органаў савецкай улады і г.д. Аднак некаторыя дакументы выклікаюць недавер.

У дапаможнік уключаны "Дагавор Смаленскага, Віцебскага і Полацкага княстваў з Рыгай, Готландскай зямлёй і нямецкімі гарадамі 1229 года" пры гэтым прыведзены Готландская і Рыжская рэдакцыі гэтага дакумента (сс. 15-24). З аднаго боку — гэты матэрыял для гістарычнага даследвання, а з другога — уносіцца блытаніна, бо тэксты не супадаюць, і выходзіць, што адзін тэкст лішні. "Акт Крэўскай уніі 1385 года" (сс.34-36) выклікае зусім непаразуменне. У гістарычнай літаратуры выказваецца думка, што ён з'яўляецца пазнейшай фальсіфікацыяй. Вядома, што ў Крэве акт, як юрыдычны дакумент не падпісваўся, а была толькі дасягнута дамоўленасць, пагадненне. Асабліва недарэчнымі з'яўляюцца ў "Акце ..." абяцанні Ягайлы перадаць казну Літвы на патрэбы Польшчы, заплаціць 200 тыс. флорынаў Вільгельму Аўстрыйскаму толькі за гонар зрабіцца прымаком Ядвігі. Гэты дакумент з'яўляецца яўнай падробкай. І змяшчэнне яго ў гэтай хрэстаматыі зніжае яе вартасць.

Наступны дакумент "Прывілей караля польскага Уладзіслава (Ягайлы) князю літоўскаму Скіргайлу на Троцкае, Менскае і Полацкае княжэнні 1387 года" (с.36) у самім загалоўку ўтрымлівае памылку — прапушчана яшчэ адна пасада Ягайлы "вялікага князя літоўскага". Павінна быць у тэксце так: "Прывілей вялікага князя літоўскага і караля польскага Уладзіслава (Ягайлы) ...". Нагадаем, юрыдычна кароль польскі пасля Крэўскай уніі не мог распараджацца землямі ВКЛ. Імі мог распараджацца вялікі князь літоўскі Ягайла. Наступны дакумент (на с.40) называецца правільна: "Прывілей вялікага князя літоўскага і караля польскага Уладзіслава Ягайлы 1387 года". Абодва прывілеі адносяцца да аднаго года, але да розных месяцаў і дзён.

Вучэбны дапаможнік вельмі патрэбны для настаўнікаў гісторыі, а таму даводзіцца толькі шкадаваць, што ён з-за малога накладу адразу стаў рэдкай кнігай, якая не даступная для большасці настаўнікаў.

*Сымон Барыс*
*г.Менск*





# Змаганне за мову ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 12 склікання

## Стэнаграмы 16-й сесіі. Паседжанне 89-е. 23 сакавіка 1995 года, чацвер, 16 гадзін.



Шаснаццатая сесія
Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
дванаццатага склікання

Бюлетэнь № 89

Выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
1995

***Шаноўнае спадарства. Сёння, калі над нашай Бацькаўшчынай навісла пагроза знішчэння, як краіны, а над намі пагроза знішчэння, як народа, як этнасу, мы хочам нагадаць, як усё пачыналася, як, не адстаяўшы мову, мы паклалі на імперскую плаху і незалежнасць, і будучыню, і гонар, і жыцці сваіх дзяцей, і ўсё, што дагэтуль называлася Беларуссю.***

***"Наша слова" пачынае друкаваць стэнаграмы 16-й сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання, той самай сесіі, на якой вырашалася пытанне рэферэндуму пра мову і сімволіку. Мы дамо выступы і тых, хто нішчыў мову, і тых, хто яе прадаваў, і тых, хто яе бараніў. Нашчадкі павінны ведаць і заступнікаў Беларусі, і яе катаў, і праведнікаў, і юдаў. Мы пастараемся падаць стэнаграмы найбольш поўна, апускаючы толькі неістотныя фрагменты і тыя, што не тычацца гэтага пытання, як, скажам, пытанне фінансавання рэферэндуму. Гэта зойме шмат газетнай плошчы, але гэта трэба ведаць.***

Старшыня. Паважаныя дэпутаты! Разглядаем наступнае пытанне парадку дня нашай сесіі. Мы з вамі прынялі рашэнне аб уключэнні ў павестку дня пытання аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню. Улічваючы тое, што гэта пытанне ўнёс для разгляду на Вярхоўны Савет Прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, паважаны Аляксандр Рыгоравіч, ці будзеце вы выказвацца па гэтаму пытанню яшчэ дадаткова?

Лукашэнка А.Р. (Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, *пераклад з расейскай*). Шаноўны Іван Міхайлавіч, я б хацеў заслухаць паведамленні камісіяў, і калі будзе неабходнасць абгрунтавання ўнесеных мною сімвалаў найперш ( пра мову тут зразумела), нейкія іншыя пытанні, я гатовы дэпутатам прадставіць матываваныя адказы.

Старшыня. Добра. Дзякуй. Паважаныя дэпутаты! Я запрашаю на трыбуну старшыню Камісіі па заканадаўству Булахава Дзмітрыя Пятровіча. Калі ласка.

Булахаў Д.П. (Магілёўская-Юбілейная выбарчая акруга № 275, *пераклад з расейскай*). Шаноўныя дэпутаты! Паважаны Вярхоўны Савет! Я мяркую ( і сведчанне гэтаму — папярэдня абмеркаванне аб уключэнні ў павестку дня дадзенага пытання), што дыскусія ў нас адбудзецца ажыўленая, магчыма, яна будзе мець бурны характар. Я б хацеў адразу вас заклікаць — меней эмоцыяў, болей розуму ў абмеркаванні гэтага, вельмі складанага і вельмі значнага сацыяльна-палітычнага пытання.

Як вам вядома, 21 сакавіка 1995 г. за подпісам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі ў Вярхоўны Савет паступіў праект Пастановы Вярхоўнага Савета аб прызначэнні абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму з прапановай правесці яго па наступных пытаннях:

Ці згодны вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай? Так ці не?

Ці падтрымліваеце вы прапанову аб устанаў-ленні новага Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? Так ці не?

Ці падтрымліваеце вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія накіраваны на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй? Так ці не?

Ці згодны вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі? Так ці не?

Як часцяком здараецца ў Вярхоўным Савеце, мы схільныя ў сілу аднахвілінай палітычнай кан'юнктуры выцягваць тыя ці іншыя нормы права дзеля таго, каб абгрунтаваць уласны пункт гледжання. Мы разглядалі гэтае пытанне па-за кантэкстам палітыкі, з пункту гледжання чыстай юрыспрудэнцыі, і, паверце, я збіраюся вам давесці (зраблю намаганне быць цалкам праўдзівым і дакладным у сваіх фармулёўках) некан'юнктурны пункт гледжання.

Такім чынам, давайце ўявім сабе сукупнасць законаў, нарматыўных актаў, якія павінны намі ўлічвацца, калі мы прымаем адпаведнае рашэнне. Галоўным законам з'яўляецца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. І некаторыя артыкулы я дазволю сабе працытаваць.

Такім чынам, артыкул 3: Каму належыць улада ў дзяржаве? Як высветлілася, улада ў дзяржаве належыць народу.

Артыкул 6: спасылка на тое, што дзяржава дзейнічае, усе яе органы дзейнічаюць на прынцыпе раздзялення ўладаў і яны, гэтыя ўлады, у межах сваіх паўнамоцтваў (заўважце, не мнімых паўнамоцтваў, а рэальна замацаваных заканадаўствам) дзейнічаюць самастойна. Як раз аб гэтым згадваецца ў артыкуле 7, дзе сказана: дзяржава і ўсе яе органы, звязаныя правам, дзейнічаюць на аснове Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю законаў.

Глава 2 Канстытуцыі — гэта спецыяльная глава, прысвечаная пытанням рэферэндуму. І тут цэнтральным артыкулам з'яўляецца артыкул 74, які складаецца з трох частак. Гэта невялікі артыкул, я дазволю сабе прачытаць яго.

"Рэспубліканскія рэферэндумы прызначаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь." (я падкрэслю, што і артыкулы 74, 78, 83 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама артыкул 5 Закона "Аб рэферэндуме, які дзейнічае, паказваюць на тое, што адзіным органам, паўнамоцным прымаць рашэнні аб прызначэнні рэферэндуму, з'яўляецца Вярхоўны Савет).

Такім чынам, цытата. Артыкул 74: "Рэспубліканскія рэферэндумы прызначаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь або не менш як 450 тысяч грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам. Такім чынам, вызначана кола суб'ектаў, якія маюць права ініцыятывы (не прызначэння, а ініцыятывы) прызначэння рэферэндуму. Я яшчэ раз падкрэслю: рашэнне аб прызначэнні згодна Канстытуцыі і закону — па сутнасці розныя рэчы. Да ініцыятараў рэферэндуму адносіцца таксама група дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў колькасці не менш 70 чалавек.

Частка другая артыкула 74 вызначае, што Вярхоўны Савет не пазней, чым за 30 дзён пасля вынясення на яго разгляд згодна з законам (я гэтыя словы падкрэсліваю, бо яны каралююцца з артыкулам 7 Канстытуцыі) прапаноў Прэзідэнта ці грамадзян прызначае дату првядзення рэспубліканскга рэферэндуму. Каб не было сумневу ў магчымсцях Вярхоўнага Савета прымаць рашэнні па сутнасці, працытую артыкул 78 Канстытуцыі з той жа главы 2 аб рэферэндуме:

"Парадак правядзення рэспубліканскіх і мясцовых рэферэндумаў, а таксама пералік пытанняў, якія не могуць быць вынесенымі на рэферэндум, вызначаецца законам Рэспублікі Беларусь". Такім чынам, парадак вырашэння пытання аб прызначэнні ці не прызначэнні рэферэндуму Канстытуцыя адсылае да дзейснага ў нас Закона "Аб рэферэндуме (усенародным галасаванні)".

Артыкул 79 Канстытуцыі мае прынцыповае значэнне дзеля таго, каб яшчэ раз падкрэсліць вызначае ў сістэме органаў улады месца Вярхоўнага Савета -- адзіны заканадаўчы і вышэйшы прадстаўнічы пастаянна дзейны орган улады ў Рэспубліцы Беларусь.

Артыкул 83, які вызначае межы кампетэнцый Вярхоўнага Савета, у пункце 1 паказвае, што адной з важнейшых задач Вярхоўнага Савета з'яўляецца прызначэнне рэспубліканскіх рэферэндумаў. Пункт чацвёрты гэтага ж артыкула 83, аб які мы вельмі часта з вамі "спатыкаемся" (яшчэ раз падкрэслім, здараецца, не вельмі справядліва, паколькі існуе шмат дзе палітычная кан'юнктура), сведчыць аб тым, што права тлумачыць Канстытуцыю і законы таксама належыць адзінаму заканадаўчаму органу ў дзяржаве, менавіта Вярхоўнаму Савету.

Я проста ў якасці маленькага лірычнага адступлення хачу сказаць, што да тых часоў, пакуль рашэнне Вярхоўнага Савета не прынятае згодна з законам, гэта значыць, на табло не з'явіцца ўстаноўленая лічба галасоў, усе астатнія меркаванні, якія выказваюцца, — гэта не больш чым меркаванні. Кожны з нас мае права на ўласную пункт гледжання, а рашэнне належыць усім нам, калі, яшчэ раз падкрэсліваю, мы з вамі набіраем неабходную колькасць галасоў.

Далей артыкул 99, які тычыцца Прэзідэнта, вызначае, што прысяга Прэзідэнта мае не толькі цырыманіяльны, але і юрыдычна адзначаны характар, таму што з моманту прынясення Прэзідэнтам прысягі папярэдні Прэзідэнт саступае месца новаму Прэзідэнту. У прысязе маюцца словы: дзейнічаць згодна з Канстытуцыяй і, зразумела, не парушаць законы Рэспублікі Беларусь.

Тым дэпутатам, хто ў гарачцы стараецца, так бы мовіць, выдаць асабістае меркаванне за ісціну ў апошняй інстанцыі, хацеў бы напомніць, што артыкул 104 з раздзелу аб Канстытуцыйным Судзе вызначае, што заключэнне аб парушэнні Прэзідэнтам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дае нават не Вярхоўны Савет, нават не асобны дэпутат тым больш, а дае Канстытуцыйны Суд у выпадку адпаведнага да яго звароту.

І апошняе, што хацелася б адзначыць (гэта найбольш значны раздзел Канстытуцыі, які тычыцца дадзенай сітуацыі), — гэта два артыкулы ў заключным палажэнні ў раздзеле VIII, які тычыцца суадносін актаў Вярхоўнага Савета. Артыкул 146 вызначае вяржавенства Канстытуцыі над законамі. І артыкул 148, частка другая, я яе працытую: "Змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыі не праводзяцца ў перыяд надзвычайнага становішча, а таксама ў апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета". Я звяртаю вашую ўвагу менавіта на другую частку артыкула 148, таму што ён сфармуляваны безадносна да тых суб'ектаў, хто выступае з ініцыятывай змянення Канстытуцыі, і да спосабаў змянення Канстытуцыі. На простай мове гэта гучыць так: хто б ні пажадаў і ў якой бы форме змяніць Канстытуцыю ў апошнія шэсць месяцаў дзеяння паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета — гэта рабіць нельга. Гэта найпрасцейшая канстытуцыйная забарона. Хацелася б, каб вы мелі на ўвазе частку другую артыкула 148 Канстытуцыі пры далейшым абмеркаванні.

Зараз Закон Вярхоўнага Савета "Аб рэферэндуме". Патрэбна прызнаць, што гэты закон не дасканалы, ён не цалкам рэгламентуе неабходныя праваадносіны, якія ўзнімаюць у працэсе правядзенне рэферэндуму. Але тым не менш у асноўнай сваёй масе ён дзейнічае, паколькі Канстытуцыі не супярэчыць і адпаведны парадак правядзення і прызначэння рэферэндуму ўстанаўлівае.

Артыкул 3 закона згодна з артыкулам 78 Канстытуцыі, які я вам вышэй прыводзіў, вызначае, што "на рэспубліканскі рэферэндум не выносяцца пытанні, якія парушаюць неад'емныя правы народа Беларускай ССР (гэта стары тэкст) на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, дзяржаўныя гарантыі існавання беларускай нацыянальнай культуры і мовы, пытанні, якія могуць выклікаць парушэнні тэрытарыяльнай цэласнасці (прапускаю некалькі сказаў), а таксама пытанні, якія тычацца выканання абавязацельстваў, якія вынікаюць з міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь. Вельмі "гумовая" фармулёўка, і таму на гэтай фармулёўцы мы з вамі будзем кожны раз сутыкацца, тлумачачы яе кожны па-свойму. Хачу падкрэсліць, што афіцыйным тлумачэннем можа быць толькі рашэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 5 гэтага закона вызначае, што рашэнне аб прызначэнні рэспубліканскага рэферэндуму прымаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Карэляцыя з артыкуламі 74 і 83 Канстытуцыі відавочная.

Пытанні, якія ўздымаліся у папярэдняй дыскусіі аб адносінах Цэнтральнай выбарчай камісіі да правядзення рэферэндуму. Гэтае пытанне ў дадзеным законе ўрэгулявана ў артыкуле 10, і ўдзел выбарчай камісіі на дадзенай стадыі, калі ініцыятыва рэферэндуму сыходзіць ад Прэзідэнта, не абавязковы, таму што артыкул 10 вызначае, што выбарчая камісія папярэдняе заключэнне дае толькі ў тым выпадку, калі з ініцыятывай аб правядзенні рэферэндуму звярнулася група грамадзян.

Далей. Артыкул 14 Закона "Аб рэферэндуме" вызначае парадак прыняцця Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Аднойчы мне ўжо даводзілася выступаць і дакладваць вам пункт гледжання на гэтае пытанне. Уласна кажучы, тады яно было падтрымана. Не ведаю, як зараз вы аднесяцеся, але тым не менш.

Такім чынам, у Вярхоўнага Савета ёсць права прыняць рашэнне па сутнасці прапанаванага пытання. Найперш гэта выцякае з першай часткі артыкула 14. Я прачытаю: "Пасля атрымання афармленай ў належным парадку прапановы аб правядзенні рэферэндуму..." Належны парадак ацэначная катэгорыя, яна належыць Вярхоўнаму Савету. " ... разглядаецца пытанне аб прызначэнні даты абавязковага ці кансультатыўнага рэферэндуму і мерах па яго забяспячэнню ці аб неабходнасці прыняцця закона або іншага рашэння, якое прапаноўваецца на рэферэндум без яго правядзення". У Вярхоўнага Савета ёсць заўсёды альтэрнатыва вырашыць сітуацыю самому — гэта найбольш танны спосаб калі - нікалі, чым усенароднае апытанне.

Частка другая артыкула 14: "У выпадку парушэння гэтага закона ініцыятарамі рэферэндуму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь мае права адхіліць прапанову аб правядзенні рэферэндуму".

*( Працяг у наступных нумарах)*

# СЛОВА АД УДЗЯЧНЫХ ЗЕМЛЯКОЎ

*Некалькі тыдняў таму Беларусь наведаў у чарговы раз знакаміты ўніяцкі святар з Лондана а.Аляксандр Надсан. 23 лістапада 1958 года, роўна 40 гадоў назад, у Рыме адбылося пасвячэнне ў святары выпускніка італьянскага ўніверсітэта Аляксандра. Тут, на Радзіме, і вырашыў адзначыць а. Надсан гэтую падзею. Сярод мітусні, турбот надарылася некалькі хвілін для гутаркі з юбілярам. З змесцівам яе і хачу пазнаёміць нашых чытачоў.*

***Людміла Дзіцэвіч.***

Малая радзіма а.Аляксандра — Гародзей. Менавіта так называе ён Гарадзею, што пад Нясвіжам. Тут у жніўні 8 дня 1926 года ў сям'і праваслаўных Антона і Ганны нарадзіўся хлопчык, якому пашанцавала двойчы аб'ехаць вакол свету, падзівіцца з цудаў заморскіх краін, а сваё сэрца навек пакінуць у маленькай невядомай Беларусі.

Хадзіў ён у школу, потым у Баранавіцкую польскую гімназію. У час нямецкай акупацыі вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, і там з дапамогай настаўнікаў зразумеў, хто такія беларусы, якая яна, зямля наша. Маладому лёгка разгубіцца, у час ваеннага ліхалецця займалі пазіцыі то палякі, то немцы. І вось гэтыя сціплыя людзі — настаўнікі і матэматыкі, і гісторыі, і мовы — далі падмурак, заклалі цаглінкі ўсведамлення: мы — беларусы. Так пачаўся шлях да беларушчыны, і гэта ніяк не ўкладвалася ў агульную сістэму савецкага выхавання. Таму ў 1944 годзе трапіў за мяжу, вучыўся ў Лонданскім універсітэце на матэматычным факультэце, хацеў стаць беларускім Эйнштэйнам. Выбраны шлях цалкам не задавальняў, хацелася глыбейшага, таго, што звязана з людзьмі. Душу грэлі ўспаміны пра біскупа Сіповіча, з якім разам працаваў у Лондане і якога меў за прыклад у самаахвярнай працы. Прыходзілі навіны з Парыжа ад а.Льва Гарошкі, які таксама служыў Богу і людзям. Гэта і паўплывала на выбар шляху. Ужо ў Рыме, падчас вучобы ў Грыгарыянскім універсітэце, вывучаючы філасофію, багаслоўе, Хлопец захапіўся ідэяй адрадзіць знішчаную ўніяцкую царкву.

Лістападаўскі дзень і стаў пачаткам здзяйснення гэтай ідэі. Будучы ўніяцкі святар у Рыме, у царкве святога Апанаса пры грэцкай калегіі прысягнуў на вернасць Богу.

А.Надсан лічыць, што самае цяжкае ў святарскай працы — пераламаць сябе. Быць святаром днём і ноччу, на свет і на людзей глядзець яго вачыма. Калі ў душу прабіраюцца злосць ці зайздрасць — пазбыцца іх. Ствараецца новы тып жыцця. Гэта не прафесія, бо на ўсё жыццё дадзеная. У святара не бывае ні пенсійнага ўзросту, ні адпачынку. Галоўная мэта — дапамагаць людзям ісці да Бога, з'ядначацца з ім. А праца — звычайная: служба, хросты, шлюбы, пахаванні. На эміграцыі няма вялікай парафіі, даводзілася шукаць сабе працу. Так а. Аляксандр увайшоў у грамадскую работу. Пачаліся кантакты з эміграцыяй у Вялікабрытаніі, у іншых краінах, даводзілася ездзіць па ўсім свеце. Вакол яго гуртаваліся землякі, жылі спадзяваннем пра вызваленне Радзімы ад бальшавіцкай навалы. Трэба было ратаваць культуру роднага краю — і так з'явілася думка стварыць асветны беларускі цэнтр. Ва ўмовах эміграцыі стварылі бібліятэку, сабралі каля 20 тысяч асобнікаў кніг. Сёння ў бібліятэцы імя Ф. Скарыны знаходзяцца арыгіналы статутаў ВКЛ, першыя выданні Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, М, Гарэцкага , нумары "Нашай Нівы", "Гомана", "Беларускага звону" і шмат іншых асобнікаў. Нядаўна бібліятэка папоўнілася арыгіналамі "Біблії" Францішка Скарыны. Цяпер Мар'ян - хаўз — (такую назву мае беларуская сядзіба ў Лондане) — гэта цэнтр жыцця беларусаў Англіі.



Айцец Аляксандр Надсан

На канферэнцыі, прысвечаныя славутым людзям Беларусі, прыязджаюць з усяго свету, у зале выступаюць артысты беларускіх тэатраў — "Дзе - Я?", "Вольная сцэна". Можа англа - беларускае Таварыства — пашырыць веды пра Беларусь у англамоўным свеце. Асабліва гэта стала неабходным пасля Чарнобыльскай трагедыі, калі бальшавіцкае кіраўніцтва кінула людзей сам - насам з бядой. Калі а.Надсан пасля наведвання Беларусі расказаў у тэлеперадачы Брытаніі пра жахлівае становішча дзяцей Беларусі, ад ангельцаў пасыпаліся прапановы. Доктар Уорд, старшыня асацыяцыі каталіцкіх сем'яў, дапамог знайсці кантакты з людзьмі, якія хацелі працаваць для Беларусі. Так завязалася сяброўства з Морсіяй і Майклам Доўэламі з Валіі (г.Ньюпорт), з Джанет (г.Рай) і другімі брытанцамі, хто і сёння дапамагае аздараўленню нашых дзетак.

Прайшло каля дзесяці гадоў, як дзеці з Беларусі набылі магчымасць з'ездзіць у Вялікабрытанію, паправіць сваё здароўе. Некалькі гадоў я ездзіла кіраўніком груп дзяцей, на свае вочы бачыла, як ласкава і пяшчотна ангельцы даглядаюць нашых хлопчыкаў і дзяўчынак, як стараюцца паказаць ім сваю краіну, паваздзіць у цікавыя месцы, як доўгія гады трымаюць сувязь з гэтымі дзеткамі, шлюць ім лекі, вітаміны, падарункі.

У Беларусі ўтварыўся дзіцячы фонд "Сакавік", якім кіруе Марта Міцкевіч. Ён і выконвае асноўную работу па арганізацыі аздараўлення. Колькі шчаслівых сямей, колькі пажвавелых дзетак за гэтыя гады!

І крыўда запаўзае ў сэрца, калі чую аповед а. Надсана пра сённяшнія змены. Рэжым, які сёння пануе, на ўсіх хто працуе ў гуманітарнай галіне, глядзіць як на жулікаў. Уведзеныя ўмовы немагчыма выканаць. За месяц наперад трэба складаць спіс рэчаў гуманітарнай дапамогі, сертыфікаты мець, а дзе гэта ўсё браць, як збіраць рэчы раней, калі ангельцы могуць нешта даваць у апошнюю хвіліну перад адпраўкай грузаў і вельмі крыўдзяцца, што іх рэчы не бяруць. Калі канвой з лекамі ідзе ў Беларусь, людзі ахвяруюць сваім адпачынкам, і ... праводзяць яго на мытні каля Берасця. Лекі доўга ляжаць псуюцца. Потым у Беларусі паўзуць чуткі, што ангельцы збываюць нам непатрэбны нікому тавар. Гэта чуць вельмі крыўдна, і многія адмовіліся працаваць з Беларуссю, вязуць рэчы ў іншыя арганізацыі. Так запавольваецца, знішчаецца вялікая святая праца па выратаванні дзяцей нашага краю. Аднак а.Надсан лічыць, што ўлады, прыўлашчыўшы сабе права кіраваць гуманітарнай работай, прымусілі беларусаў стаць на ўласныя ногі, ратавацца самім — і гэта нядрэнна. Толькі, на жаль, і гэта рабіць дзяржава перашкаджае.

Са скрухай гаварыў святар пра змены ў адукацыі. Так хутка знішчаць беларускія класы — азначае прайсціся бруднымі ботамі па нашай мове, задушыць у самай пары росту нацыянальнае адраджэнне. Вельмі ўхвальна за мяжой прынятая ідэя стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта, аднак трэба злучыць разам усе ініцыятывы, што праявіліся апошнім часам на Беларусі: стварэнне Нацыянальнага ўніверсітэта, Народнага ун-та, каталіцкага ун-та, Беларускага калегіюма і інш.

Некалькі слоў а. Аляксандр прысвяціў Таварыству беларускай мовы і газеце "Наша слова". Сябрам ТБМ ён стаў у 1991 годзе, атрымаў пасведчанне на з'ездзе Таварыства. Цяпер змяніліся абставіны для арганізацый — дзяржава перастала дапамагаць, аднак гэты час вельмі добры для высвятлення пазіцый кожнага чалавека. Праца ва ўмовах акупацыйнага рэжыму мае свае перавагі і недахопы. З'яўляюцца людзі, якія не па прымусу працуюць на адраджэнне, а свядома і грунтоўна звязваюць свой лёс з лёсам беларускай Беларусі. Яны робяць усё, што можна, даказваюць, як можна дабівацца значных поспехаў на шляху адраджэння Бацькаўшчыны не колькасцю, а ўменнем. А.Аляксандр пажадаў газеце "Наша слова", каб больш было артыкулаў яркіх, інфармацыйна насычаных і каротkіх, бо доўгія цяжкія матэрыялы адбіваюць у сённяшняга паспешлівага чытача ахвоту іх чытаць.

Беларусы Вялікабрытаніі заўсёды падтрымлівалі ТБМ, а цяпер робяць гэта яшчэ шчырай. Выйшла два нумары газеты "Наша слова", цалкам выдадзеныя на ахвярныя сродкі з Брытаніі.

На заканчэнне гутаркі а. Надсан адказаў на серыю пытанняў пра любімае ў жыцці.

Любімы від мастацтва вызначыў для сябе, як яшчэ быў студэнтам. Гэта — заходняе сярэднявяковае мастацтва 14 стагоддзя, якое захапіла ў палон высокай духоўнасцю.

Любімым літаратурным творам, беларускай мастацкай Бібліяй сталі паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" і "Сымон музыка". Чытаў іх вельмі часта, адзін раз на год.

З фальклору вельмі любіць казкі, дзе просты чалавек — асілак розуму, таленту, дабрыні і справядлівасці.

Любімым заняткам — пісаць — на жаль, займаецца вельмі рэдка, няма часу, вельмі шмат планаў, задумаў.

Любімая пара года ў Беларусі — канец жніўня — верасень, калі ўсё навокал дыхае спакоем.

Я слухаю а. Аляксандра, успамінаю сціплыя ўтульныя дамочкі паселішча беларусаў Лондана, дзе так светла пачувае сябе прыезджы, атулены гасціннасцю і клопатам. Успамінаю шафы ў бібліятэцы, устаўленыя кнігамі з Беларусі і пра Беларусь, гасцёўню, якая пабачыла выбітных людзей свету.

І мне зноў захацелася туды, у тую беларускую Беларусь у Мар'ян-хаўз, дзе нашым словам, кнігам, традыцыям, сімвалам, людзям лёгка дыхаецца і вольна жывецца. Хочацца туды ад нашых двух паралельных светаў, дзе ў адным жывуць расейскамоўныя, а ў другім прамаўляюць сваім слоўкам, дзе ў адным ладуюць путы, а ў другім — іх выпрабоўваюць, дзе ў адным на сметнік выкідваюць святое, а ў другім тое ж падбіраецца, ачышчаецца, вешаецца ў покуць. Але падумалася ...

Калі а.Аляксандр змог пабудаваць у далёкай Англіі мясціну беларушчыны, злучыць параскіданыя па ўсім свеце галінкі з нашага радаводнага дрэва, і яны жывяць нас, дапамагаюць, натхняюць, то хіба мы, мацуючыся ад роднай зямлі, маем права знясіліцца, прыстаць у дарозе. І разам з намі ў гэтай дарозе быў хлопчык з-пад Нясвіжа, волат святарскай думкі 20-га стагоддзя апостальскі візітар для беларусаў - каталікаў у замежжы наш а.Аляксандр Надсан.

## Рашучы крок у беларусізацыі праваслаўнай царквы робіць царкоўны хор

Напрыканцы лістапада па запрашэнню таварыства міласэрнасці "ELEOS" разам з хорам Беларускага праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў я наведаў Беласточчыну. Хор даў два дабрачынныя канцэрты: у вёсцы Рыбалы і ў Беластоцкай філармоніі. У Рабалах была таксама адслужана ўсяночная, а ў старажытным манастыры Супрасля - літургія.

Унікальнасць і непаўторнасць выканання царкоўных спеваў хора была адзначана многімі слухачамі, у тым ліку вядомым дзеячом Сусветнага Савету цэркваў у Польшчы, бізнесменам Міраславам Матрэнчыкам, каардынатарам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання беларускіх арганізацый у Польшчы Пятром Юшчуком і іншымі.

Канцэрт у філармоніі складаўся з двух аддзяленняў: царкоўнай праваслаўнай песеннай творчасці і народных спеваў. І калі ў другой частцы не было нічога незвычайнага — Беласточчына добра ведае і шануе беларускія народныя спевы, то ў першай частцы наш хор быў непаўторным. Гучанне ў зале філармоніі Беластока фрагментаў з беларускамоўнай літургіі і беларускіх праваслаўных кантаў было сапраўдным адкрыццём амаль для ўсіх прысутных.

Беласточчына цікавая частка этнічна беларускіх зямель. Хаця мясцовыя жыхары значна апалячыліся ў моўным сэнсе, чыста польскай мовы нават у Беластоку вы не пачуеце. Вёска ўпарта трымаецца цудоўнага беластоцкага дыялекту беларускай мовы. Раней сваю нацыянальнасць яны вызначалі знаёмым нам словам "тутэйшыя", але зараз пішуць — беларус.

У вёсцы Рыбалы у сувязі з гэтай нацыянальнай праблематыкай у нас адбылася цікавая размова з мясцовым жыхаром, у якога мы начавалі. Наш гаспадар аказаўся не простым селянінам, а ... артыстам! Ужо колькі год, як Мікалай з'яўляецца кіраўніком фалькл͏ёрнага калектыву "Хлопцы-рыбалоўцы". Аднойчы мясцовыя мужыкі збегшы ад сваіх жонак вырашылі паказаць , што яны збіраюцца зусім не дзеля таго, каб гарэлку піць, а спяваць! І заспявалі. Прычым настолькі добра, што зараз вядомыя не толькі на Беласточчыне, а далёка за яе межамі. Яны ўдзельнічалі, нават, у фестывалі ўкраінскай песні ў знакамітым Сопаце. Але хоць фестываль быў украінскі, "Хлопцы - рыбалоўцы" выступілі, як гурт аўтэнтычнай песні і заваявалі прыз. Спонсарaў — канадскія ўкраінцаў зацікавілі "Хлопцы" і яны прапанавалі ім надалей запісваца украінцамі, каб з'ездзіць у Канаду і атрымаць добрыя грошы. Але яны не згадзіліся, спаслаўшыся на тое, што з'яўляюцца беларусамі. Мікалай аргументаваў гэта жалезнай логікай: "як жа я магу называцца Васілём, калі мяне з дзяцінства завуць Міколам?"

Вось такіх бы хлопцаў пабольш і нам на Беларусі!

Ужо больш года мінула з таго часу, як брацкі хор разам з айцом Георгіем Латушкам распачаў у Свята - Пятра-Паўлаўскім саборы служэнне акафіста Тром Віленскім Мучанікам і малебна за беларускі народ на беларускай мове. За гэты час хор значна павялічыў свой рэпертуар, заканчваецца падрыхтоўка беларускамоўнай літургіі, якую мяркуецца ў бліжэйшы час служыць у Свята-Пятра-Паўлаўскім храме па суботах, а таксама ў нядаўна зарэгістраваным беларускім прыходзе "Ўсіх Святых зямлі Беларускай".

Дарэчы, хаця новы прыход яшчэ не мае свайго памяшкання, прыхільнікі богаслужэння на беларускай мове збіраюцца для абмеркавання царкоўных пытанняў у храме Пятра і Паўла (дакладней у прыхадскім доме прыхода). Праводзіць гэтыя сустрэчы настаяцель храма айцец Георгій Латушка. Час правядзення - кожны панядзелак, а 18-й гадзіне.

На заканчэнне артыкула, мне б хацелася пазнаёміць чытачоў "Нашага слова" з песняй, беларускім кантам з рэпертуара брацкага хора. Гэтая духоўная песня вядомая не толькі праваслаўным беларусам, але і каталікам і ўніятам.

**Дай, добры Божа**

*Словы Я.Германовіча, музык. апрацоўка Г.Піхура.*

Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць.
Тваёю ласкай захавай ад грэху,
К табе ўздыхае маё сэрца плачыць —
Дай ў тваёй сіле мне знайсьці суцеху!

Ты сьвет уладзіў на людзкую службу —
Такі харошы і такі прыгожы,
Каб мы ўвайшлі з гэтым сьветам ў дружбу,
Цябе хвалілі, найлепшы наш Божа!

Табе малюся, Божа міласьцівы,
Дай мне ўбачыць, сьвет Твой найясьнейшы —
Цябе самога і ўсё ў небе дзівы.
На векі вечны, Божа наймілейшы!

Тваёю моцай і я моцны стану —
Айца, і Сына , і Духа Сьвятога —
Тройцу адзіну, калі ў неба гляну,
Хваліці буду Стварыцеля Бога.

Будзь слава Богу, у Тройцы ўсемагутнай
І жыватворчай, вечнай на заўсёды,
І нераздзельнай і адзінасутнай,
У Божай моцы, знак любові-згоды.

***Анатоль Астапенка.***

# "Як чыстая крыніца прабіваецца скрозь глебу, так і мова, рана ці позна, загучыць ва ўвесь голас"

Інтэрвію карэспандэнта газеты "Наша слова" Тамары Смольскай з дырэктарам Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы Давыдзькам Генадзем Браніслававічам.

Чытачы "Нашага слова" задаюць пытанні пра дзейнасць нацыянальнага тэатра, цікавяцца яго кіраўніцтвам. Таму маё першае пытанне да яго дырэктара.

*— Паважаны Генадзь Браніслававіч, з якімі праблемамі Вы сутыкнуліся, калі ўзначалілі тэатр?*

— Самая галоўная праблема — гэта фінансавая, горка ўсведамляць тое, што работнікі культуры аказаліся ў такім жахлівым стане. Акцёры тэатра не маюць магчымасці нават нармальна харчавацца. Канешна, з боку дзяржавы ёсць падтрымка, але яна недастатковая. Гадоў з 10 таму мы былі ў большай пашане ў дзяржавы, я маю на ўвазе і аплату працы і, наогул, матэрыяльнае забяспечанне дзейнасці тэатра. Трэба ведаць, што тэатр — гэта вельмі спецыфічная ўстанова. Таму без сур'ёзнай падтрымкі на самым высокім узроўні тэатру не выжыць. Я хацеў бы нагадаць, што нашаму тэатру 110 гадоў, гэта адзіны нацыянальны тэатр, дзе захаваны скарбы нацыянальнай драматургіі, ён з'яўляецца скарбонкай нацыянальнай філасофскай, эстэтычнай думкі. Зараз, нажаль, культура у фінансавым занепадзе і таму другая праблема — праблема захавання кадраў. У нас вельмі таленавіты калектыў, многія акцёры ўваходзяць у нацыянальную культурную эліту. Яны, сваім мастацтвам, маглі б упрыгожваць сцэну любога знакамітага тэатра свету. Але сённяшняя аплата іх працы такая жабрацкая, што яны вымушаны шукаць іншыя крыніцы існавання. Калі такая сітуацыя будзе год-два, мы можам застацца без нацыянальнага тэатра. Але ж я аптыміст і, спадзяюся, што становішча зменіцца ў лепшы бок, бо цяпер усё больш людзей разумеюць, што адраджэнне эканамічнае не можа быць без адраджэння духоўнага. Каб лепш зразумець гэтую сувязь, дастаткова параўнаць дзяржаву з чалавекам. І калі сэрца — гэта маральнасць, культура, мастацтва, а ўсё астатняе — эканоміка, то як можа лічыць сябе здаровым чалавек з хворым сэрцам.

*— Назва "нацыянальны" тэатр да многага абавязвае. Якую ролю, па Ваш погляд павінен адыгрываць нацыянальны тэатр у культурным жыцці краіны?*

— Мы жывём у цяжкі час і калі дзяржава, звяртаючыся да грамадзяніна, кажа аб цярпенні і стрыманасці, то тэатр павінен суцяшаць нашага чалавека. Умоўна кажучы, калі дзяржава — гэта бацька, то мастацтва — душа народа — гэта маці.

Мастацкімі сродкамі мы перадаём гледачу боскі голас нашых продкаў, які суцяшае, падтрымлівае і накіроўвае ў будучыню. Як нацыя мы павінны выканаць сваю місію да канца, місію белага, чыстага, самабытнага народа, які ахвяруе сённяшнім днём у імя сваёй будучыні. Як нацыя ад Бога, мы павінны прайсці свой пакутны шлях, не ўзвальваючы адказнасць за гэтыя пакуты на другіх. Наша дзяржава не павінна быць сваеасаблівай "еўрапейскай анучай". Знайсці сваё духоўнае апірышча ў такім складаным часе і атрымаць надзею — у гэтым я бачу галоўнае прызначэнне нашага тэатра.

*— Якія творчыя планы тэатра на новы 1999 год?*

— Планы вельмі вялікія, нават недазваляльна вялікія ў эканамічным сэнсе. Але ёсць надзея на Фонд падтрымкі культуры пры прэзідэнце, куды накіраваны ліст. Не гледзячы на праблемы, мы працягваем быць вернымі нашаму галоўнаму прызначэнню. Рыхтуецца спектакль па новай п'есе Дударава "Чорная панна". Гэты цудоўны твор сведчыць аб невычарпальнасці срэбнай скарбонкі паэтычнай гісторыі Беларусі. Спектакль ставіцца такім чынам, каб яго можна было паказаць усяму свету, бо нажаль, такі спектакль як "Князь Вітаўт", які карыстаецца ашаламляльным поспехам у гледача — не выязны, у сэнсе тэхнічным. Дзеля таго, каб яго вывезці, трэба некалькі машын, бо гэта і дэкарацыі, і касцюмы, і вялікая колькасць акцёраў. Сам, як рэжысёр, я рыхтую спектакль па творы драматурга А.Дзілендзіка "Яблыкавы спас". Таксама рыхтуецца спектакль па п'есе А.Пановай "Прагулкі па Нью-Ёрку".

Мы звяртаемся і да сусветнай літаратуры. Гэта Фугарт, Уільма, Бергеман. Рыхтуецца спектакль па творы У.Шэкспіра "Сон у Іванаву ноч".

Асобнае месца займаюць гастрольныя планы — гэта Украіна, Казахстан, Эстонія.

*— Раскажыце, калі ласка, пра сябе і асабістыя творчыя планы.*

— Бацькі пенсіянеры жывуць у Беларусі. Жонка - артыстка Менскага тэатра "Бульвар смеху". Дачка вучыцца ў 26 школе-ліцэі. Работа дырэктара забірае вельмі многа часу і на акцёрства, нажаль, гэтага часу не хапае. Апошняя роля ў спектаклі "Князь Вітаўт".

Займаюся пошукам фундатараў для стварэння тэлевізійнай студыі, каб пашырыць папулярызацыю купалаўскіх акцёраў. І наогул, тэлестудыя дае новыя магчымасці для творчасці.

Ёсць такія мары — планы, каб адбыліся гастролі такіх спектакляў як "Паўлінка", "Памінальная малітва" ў Аўстраліі, Канадзе, Ізраілі.

На базе Дзяржфілармоніі 24 снежня адбудзецца прэм'ера мюзікла на музыку У.Кур'яна, сцэнарый і пастаноўку якога рабіў я сам.

*— Як вядома, Вы з'яўляецеся не толькі дырэктарам тэатра, але і тэлевядучым праграмы "Сёння з намі".*

— Гэта не выпадкова спачатку я быў героем гэтай праграмы. Потым мне прапанавалі стаць яе вядучым. Гэта праграма асабіста мне дае магчымасць пабачыць новых цікавых людзей. Што б не казалі пра гэтую праграму, я лічу яе вельмі патрыятычнай, таму што яна рэкламуе і знаёміць гледача не з зоркамі палітыкі, эстрады, спорту Расеі ці іншых краін, а з нашымі таленавітымі вядомымі людзьмі, якія пакуль яшчэ ёсць на Беларусі. Дарэчы, я і раней працаваў на тэлебачанні, думаў пра стварэнне сваёй праграмы. Заўсёды крыўдзіўся на неарганізаванасць, адсутнасць канцэпцыі, змагаўся і не мог перамагчы кансерватыўнасць нашага тэлебачання.

*— Вы былі кіраўніком тэатра "Бульвар смеху". Што сталася з гэтым тэатрам?*

— Да канца года тэатр дае дзве пастаноўкі, а потым перастае існаваць як тэатральная трупа і ператвараецца ў культурна-прадзюсарскі цэнтр, дзе будуць новыя праекты. Можа быць гэта будуць гумарыны, фестывалі, спектаклі, на ўдзел у якіх будуць запрашацца розныя акцёры. Прычына знікнення таленавітага тэатра таксама — фінансавая. Акцёры — з'яўляюцца самі спонсарамі апошніх спектакляў, працуюць без аплаты толькі таму, што іх чакаюць гледачы. Калі цяжка існаваць дзяржаўнаму тэатру, то камерцыйнаму, наогул, немагчыма.

*— Што б Вы хацелі пажадаць чытачам "Нашага слова".*

— Я ведаю, што чытачы "Нашага слова" з'яўляюцца гарачымі прыхільнікамі беларускай мовы і веру ў тое, што іх будзе ўсё больш і больш, бо беларуская мова вельмі багатая, шчырая, чыстая і зразумелая. Я узгадваю спектаклі тэатра, якія праходзілі ў Башкірстане ў Уфе. На ўсіх спектаклях быў аншлаг. І там, далёка ад Беларусі, людзі разумелі нашыя словы, адгукаліся на тонкі беларускі гумар. На спектаклях усталёўваўся духоўны кантакт паміж залай і сцэнай. Гэта адбывалася дзякуючы магутнай сіле, якая закладзена ў беларускім слове. Таму я жадаю усім чытачам не страчваць веры і надзеі. Як чыстая крыніца прабіваецца скрозь глебу, так і мова, рана ці позна, загучыць ва ўвесь голас. Я спадзяюся, што мова будзе жыць, калі ў яе прыхільнікаў хопіць мужнасці і веры. І напрыканцы, я хацеў бы запрасіць усіх на спектаклі нашага тэатра.

# Пра што думаў князь Вітаўт?

Многія, напэўна, сёння заўважалі той факт, што колькі ўжо часу ідзе сцэнічнае жыццё спектакля "Князь Вітаўт", а білет на яго набыць усё так жа цяжка, як і раней. Гэта датычыцца і апошняга разу, калі ён зноў з'явіўся на сцэне Купалаўскага тэатра 24 лістапада бягучага года.

Цікава, чым ж усё такі, прыцягвае людзей да сябе вышэй названая дзея? Адказаць дакладна немагчыма. Можа з-за таго, што з цікавасцю ўспрымаецца людзьмі, ці, можа нават, з-за вельмі арыгінальнай сваёй будовы. Але галоўнае тое, што поспех спектакля відавочны, а гэта гаворыць пра яшчэ доўгі шлях яго па тэатральнай сцэне.

Наведаўшы Купалаўскі тэатр, і пабачыўшы спектакль, я зразумеў, што нездарма так цяжка трапіць на яго. Дзея сапраўды вельмі арыгінальная і цікавая. Дарэчы, яшчэ ідучы ў тэатр, я вобразна ўяўляў сабе ў думках, як яно будзе выглядаць, аднак арыгінал намнога пераўзышоў мае ўяўленні. У колькіх тэатрах быў, а такога я яшчэ не бачыў. Сапраўды вельмі захапляльна і незвычайна. А спектакль прасякнуты духам далёкай даўніны і калі глядач назіраў за тым, што адбывалась на сцэне, ён псіхалагічна быццам зліваўся з той атмасферай, што панавала ў дзеі. Здавалася, што ты з'яўляешся нябачным сведкам рэальных падзей, што адбываліся шмат стагоддзяў таму на нашай роднай беларускай зямлі. І той жа князь Вітаўт, і Ягайла, і многія іншыя героі здаваліся такімі рэальнымі, што ўзнікала нейкае хвалюючае пачуццё мінулай рэальнасці. І гэта сапраўды так. Той, хто не пабачыў "Князя Вітаўта", не зразумее гэтых слоў. Толькі пабачыўшы, перажыўшы разам з акцёрамі гэта дзеянне, праніклнуўшыся ўсёй сваёй існасцю ў атмасферу далёкіх мінулых падзей, можна зразумець што гэта такое.

У прыватнасці ж спектакль вядзе гаворку аб далёкіх падзеях канца XIУ стагоддзя, калі Вялікі князь Літоўскі Вітаўт і яго брат Ягайла вялі вайну між сабой за вялікакняскі трон у Вільні — ранейшай сталіцы Беларусі і Летувы (Жамойці). Тут жа таксама ахопліваецца падзея заключэння Крэўскай уніі 1385 года паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каронай (Польшчай). Акрамя таго, на фоне буйных падзей асвятлялася і жыццё многіх герояў спектакля, іх сутычкі, размова, дзеянні і многае іншае. Найбольш цікавымі героямі тут былі, канечне, князь Вітаўт і Ягайла. Гледзячы на гульню акцёраў, што выконвалі іх ролі, здавалася, што такімі яны былі і тады, многа гадоў таму, і так жа думалі, дзейнічалі. Гэтыя вобразы так урэзаліся мне ў памяць, што я, напэўна, яшчэ доўга буду ўяўляць гістарычных Вітаўта і Ягайлу такімі ж.

Атмасферу даўніны на сцэне дапаўнялі таксама тамнічая і незвычайная музыка, асвятленне, афармленне сцэны, ды і самі акцёры бліскуча выконвалі свае ролі. Грандыёзнасць спектаклю можна ўявіць, хаця бы, па лічбе. На колькі я добра падлічыў, у ім было задзейнічана да 30 акцёраў. Можна сабе ўявіць, што гэта была за дзея!

Увогуле спектакль вельмі цікавы і нясе ў сабе шмат карыснай інфармацыі па гісторыі нашай краіны таго часу. Ён змог дасягнуць пастаўленай мэты і добра паказаў нам, гледачам, галоўную дзейную асобу князя Вітаўта, яго дзеянні, учынкі, думкі, клопат за лёс Бацькаўшчыны, дапамог нам убачыць, што гэта была за гістарычная фігура, Вітаўт, пры якім наша з вамі старажытная дзяржава дасягнула вышэйшага росквіту.

Пакідаў тэатр я з упэўненасцю, што сапраўды князь Вітаўт думаў пра Беларусь.

*Карэцкі А.У.*
*група № 205 БУК.*



Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 4. 01. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 2.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 15 000 руб., 3 мес.- 45 000 руб.
Цана ў розніцу: 5 000 руб.